# Рабочы Бабруйска

№ 5 (46) 22 – 28 лютага 2001

Наклад 299 ас. Паштовы адрас: 213 807, Бабруйск, а/с 11. Рэдактар Ігар ХОДЗЬКА.


ПАДЗЕІ

## Любові! Свабоды! Пераменаў!

14 лютага вольная бабруйская моладзь адзначала свята ўсіх закаханых. Акцыя мела агульнарэспубліканскі назоў – "Любові! Свабоды! Пераменаў!" Гэта было адно з самых буйных дэмакратычных мерапрыемстваў нашага горада. Святкаванне і віншаванне пачалося яшчэ ў першай палове дня.

У 12:30 прадстаўнікі недзяржаўных маладзёвых арганізацый завіталі ў офіс БПСМ, дзе павіншавалі ўсіх прысутных і ўручылі ўсмешлівую "валянцінку". Потым дэлегацыя накіравалася ў гарвыканкам, дзе віншавальная паштоўка была ўручана Міхаілу Бандарэнку, яго сакратару. Затым дэлегацыя накіравалася ў будынак Ленінскага і Першамайскага раённых выканкамаў. Там святочныя паштоўкі атрымалі старшыні Юрэвіч і Цепляхоў.

А ў другой палове дня, каля 17:00, на плошчы Перамогі пачалі збірацца людзі, пераважна моладзь. Яны знаходзіліся на плошчы не доўга. Хвілін ў 10 на шостую яны зрабілі жывое сэрца, ўзяўшыся за рукі, пасля чаго рушылі па вуліцы Савецкай да плошчы Леніна. Падчас хадзьбы юнакі і дзяўчаты, упрыгожаныя бел-чырвона-белымі стужкамі, паветранымі шарыкамі і рознымі бантамі, раздавалі "валянцінкі", казалі добрыя словы прахожым. На плошчы Леніна калона са 170-200 чалавек збочыла да помніка правадыру.

Там быў арганізаваны невялікі феерверк. Атрымалася прыемна і прыгожа.

Далей шэсце збочыла да вуліцы Кастрычніцкай. Прайшоўшы па ёй, паспяваўшы песні пра каханне, святкавальчыкі звярнулі на вуліцу Мінскую і накіраваліся да Дома сувязі. Каля хлебнай крамы нечакана пачаў страляць салют. Прагрымела залпаў 5-6. Пад стрэлы нехта крычаў "Жыве Беларусь!", нехта "Моладзь прагне пераменаў!". Усё, так бы мовіць, свята скончылася ў Алеі Славы гучным клічам "Жыве Беларусь!"

Дзень абышоўся без затрыманняў і з добрым настоем. Бабруйская моладзь дала паняць уладам, што яна прагне любові, свабоды, пераменаў!

**Кацярына АНДРЭЕВА.**



РЭАЛІІ

## "Павінен быць інвестарам..."



Фёдар Кашчуй стаяў на чарзе на ўсталяванне тэлефона 10 гадоў. У маі 2000 года ён, як і тысячы іншых грамадзян, атрымаў доўгачаканае паведамленне. Аднак пры афармленні "ружовыя акуляры" у момант "зляцелі" — акрамя выплаты за ўстаноўку, згодна з тарыфам, Фёдара абавязалі дадаткова заплаціць суму, эквівалентную 114 доларам, прычым палову – у тыдневы тэрмін. Аказалася, што ўзаконіў даны "сціплы" пабор пастановай ад 20 красавіка 2000 года Бабруйскі гарвыканкам. Першае, што прыйшло на думку, наваўвядзенне з'явілася па дзівацтву мясцовых улад, але, як высветлілася, непрыкрыты рабунак сваіх грамадзян (пад выглядам будаўніцтва АТС на 4 тысячы нумароў з прыцягненнем сродкаў юрыдычных асоб) узаконены распараджэннем Магілёўскага аблвыканкама № 283-р ад 4 чэрвеня 1998 года.

Ф. Кашчуй пачынае з дапамогай дыпламатычных шляхоў шукаць праўды ў гарадскіх, абласных і рэспубліканскіх чыноўнікаў. Цікава, што ў якую інстанцыю ён ні звяртаўся са скаргамі, адказ заўсёды атрымліваў ад начальніка вузла сувязі горада ці вобласці. Зварот у генпракуратуру быў "адфутболены" у Бабруйскую пракуратуру, а адказ з Адміністрацыі прэзідэнта далі… сувязісты: "павінен быць інвестарам і бязвылатна ўкладваць грошы ў развіццё сувязі". Змагаючыся за справядлівасць, шукаў праўды і ў памочніка дэпутата Палаты прадстаўнікоў т. Шпілеўскага, і ў Дзяржкантролі, тройчы звяртаўся ў Магілёўскі аблвыканкам, асабіста да Сівіцкага. Аднак ніхто з прадстаўнікоў "народаўладдзя" не пажадаў уніކнуць у сутнасць справы, павярнуцца тварам да простага чалавека.

Тэлефон, які ўсталявалі Ф. Кашчую, прапрацаваў два дні 29 і 30 снежня. Потым у трубке прагучала: "аключаны за нявыплату", і апарат змоўк. А нядаўна Фёдар атрымаў паведамленне за подпісам начальніка Бабруйскага ВЭС, дзе паведамляецца, што тэлефонны дагавор анулюецца, а частку ўжо выплачаных грошай прапануецца забраць.

І насамрэч, абсалютна незразумела, чаму ж грамадзяне павінны бязвыплатна выплочваць грошы, калі, згодна з Правіламі прадастаўлення тэлефонных паслуг, абанент мае права на карыстанне тэлефонам, права, якое не прадаецца, не купляецца, не атрымліваецца ў спадчыну, не завяшчаецца і г.д.? А калі раптам атрымаецца так, што, выплаціўшы аднойчы фантастычную суму, прыйдзецца, напрыклад, пераехаць у іншы горад?

Ну што ж, такому небараке можна будзе толькі паспачуваць.

**Віктар КАЧАН.**

НАШИ ПРАВА

## Устав всегда прав

> ***"Уважаемая Кокош Л.И. Настоящим сообщаем, что членство вашей семьи в общественном объединении "Семья" прекращается согласно Уставу ОО "Семья" пункта 3.1.***
> ***Совет ОО "Семья".***

Письма такого содержания получили 7 семей городской ассоциации многодетных родителей "Семья", возглавляемой Раисой Григорьевной Кундир.

Люди терялись в догадках, что же это за загадочный пункт 3.1, и чем же они провинились. Ларчик открывался просто. Дети выросли, и их количество перестало соответствовать "уставному".

Что ж, жизнь есть жизнь. Все течёт, все меняется. Закон (т.е. Устав) есть закон. Однако на данном "документе" отсутствует то, что превращает клочок бумаги в собственно документ. Нет ни номера протокола заседания руководящего органа, на котором это решалось, ни даты, ни подписи председателя.

Была бы не лишней и расшифровка пункта 3.1, поскольку вряд ли какая-то из этих семей имеет в обиходе Устав. Тем более что в ассоциации "Семья" даже иметь копию Устава считается крамольным (!), и последняя была безжалостно изъята из обращения среди рядовых членов организации ещё в 1999 году самой Раисой Григорьевной.

Мы привыкли к неуважительному отношению со стороны государства. Что ж, мы в нём живём добровольно-принудительно. Но вдвойне обидно, когда в общественной организации, созданной на принципах добровольности и гласности (так говорят первые строчки Устава), господствует тот же принцип "мой колхоз", а в людях видят лишь источник членских взносов.

**Л. КОКОШ.**

РЭГІЁН

## Несуцяшальныя вынікі

Як спрацавала вобласць у мінулым годзе? Гэтае пытанне, у прыватнасці, было разгледжана на чарговым пасяджэнні аблвыканкама, якое прайшло пад старшынствам новага абласнога кіраўніка Барыса Батуры.

Падчас справаздач і іх абмеркавання высветлілася, што ўвогуле ўсё не так дрэнна, за выключэннем "некаторых дробязяў". Па шматлікіх паказчыках прамысловасць вобласці спрацавала ніжэй, чым чакалася. Больш, чым у два разы павялічылася колькасць стратных прадпрыемстваў – з 33 да 69. Да гэтага жудаснага факта можна дадаць яшчэ сёе-тое: не выканаены план па вытворчасці спажывецкіх тавараў; паказчык па колькасці бартэрных аперацый – горш за сярэднерэспубліканскі; узровень карупцыі ў рэгіёне, на думку старшыні аблвыканкама, вельмі высокі.

Не самым лепшым чынам пачаўся і новы год: прагнозныя паказчыкі, калі меркаваць па студзеньскаму "размаху" у прамысловасці, таксама пад вялікім пытаннем.

## 155 парушальнікаў

За мінулы год Бабруйскі міжраённы камітэт Дзяржаўнага кантролю Магілёўскай вобласці правёў 156 праверак прадпрыемстваў і арганізацый розных форм уласнасці. Ва ўсіх выпадках, акрамя аднаго, былі зафіксаваны парушэнні нарматыўных актаў.

Эканамічныя санкцыі прымянены на суму 95084,9 тысяч рублёў, да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты 314 чалавек, агульная сума штрафаў склала 4536,7 тысяч рублёў, 17 чалавек звольнены са сваіх пасадаў, узбуджана 7 крымінальных спраў.

## На дарогах небяспечна

Летась на дарогах Бабруйскага раёна зафіксавана 56 дарожна-транспартных здарэнняў, у якіх загінула 24 чалавекі і яшчэ 58 былі паранены. Па віне нецвярозых вадзіцеляў адбылося 7 ДТЗ. Удзельнікамі 23 здарэнняў сталі пешаходы, 11 з якіх пры гэтым загінулі.

З мэтай папярэджання і прафілактыкі дарожна-транспартных здарэнняў, на тэрыторыі Бабруйскага раёна з 26 студзеня па 28 лютага праводзяцца аперацыі "Хуткасць" і "Пешаход".

Спадзяемся, што сёлетняя статыстыка не будзе такой сумнай.

## Машына як аб'ект угону

З пачатку года ў горадзе зафіксавана ўжо тры выпадкі ўгону прыватнага аўтатранспарту. Злачыньцы адштурхоўваюцца ад мінулагодняга графіка: за ўвесь 2000 год у Бабруйску адбылося 27 крадзяжоў транспартных сродкаў і 42 угоны.

Ці чытаюць угоншчыкі газеты, не ведаем, але на ўсялякі выпадак нагадаем, што з новага года заканадаўства стала больш жорстка ставіцца да падобных парушэнняў Закона.

**А. ЛІТВІНАЎ.**

БУДНІ

## Чарговыя затрыманні

8-га лютага ў 22 гадзіны двума супрацоўнікамі міліцыі на тралейбусным прыпынку на вуліцы Мінскай былі затрыманы за расклейванне налепак "Акцыя Любові" і "Зубр" 22-гадовы Дзяніс Ш. і 17-гадовы Валерый М. Быццам да небяспечных злачынцаў да іх яшчэ падбег тузін міліцыянераў з сабакам. У хлопцаў абшукалі кішэні, потым адвезлі ў восьмы "апорнік". Там пад двухгадзінную паліт інфармацыю на іх склалі пратаколы.

На наступны дзень з "органаў" патэлефанавалі дамоў Валерыю М. і "запрасілі" у РАУС да інспектара па справах непаўнагадовых. У ходзе гутаркі хлопцу патлумачылі, што нічога палітычнага ў налепках не знайшлі, таму ён будзе пакараны за "антысанітарыю". Аднак пакуты ягоныя на тым не скончыліся. У вучэльні, дзе вучыцца Валеры М., ён быў выкліканы да дырэктара, затым да намесніка дырэктара па выхаваўчай частцы, а 14 лютага выклікалі ягоных бацькоў. Да Дзяніса Ш., які нядаўна вярнуўся з войска, прыязджалі 12 лютага, абяцалі выслаць позву на адміністратыўную камісію ў самы бліжэйшы час.

**Віктар КАЧАН.**

## Жалобны напамін

15 лютага чарговая гадавіна ўвахода войскаў у Афганістан. З гэтай нагоды бабруйская гарадская арганізацыя грамадскага аб'яднання Беларускага Саюза ветэранаў вайны ў Афганістане арганізавала ўскладанне кветак да помніка воінам-інтэрнацыяналістам, ускладанне кветак да магіл воінаў-інтэрнацыяналістаў, загінуўшых у Афганістане і лакальных войнах, а таксама жалобную службу ў Свята-Георгіеўскай царкве. У мерапрыемствах узялі ўдзел сваякі воінаў, а таксама людзі, неабыякавыя да лёсу суайчыннікаў.

**Кацярына АНДРЭЕВА.**



**Свои обращения, отклики, пожелания вы можете прислать нам на адрес: 213809, Бобруйск, а/я 11.**

ДЕЛА РАЙОННЫЕ

# Новый старый рулевой




Нигде в мире, говорят, нет такого праздника — Старый Новый год. Более того, иностранцу такое словосочетание вовсе непонятно: как может что-либо быть новым и старым одновременно? Нонсенс, взаимоисключающие понятия. Однако мы-то Старый Новый год всегда празднуем — и ничего противоестественного в этом не видим.

А у нас, на АО "Стекло-Глуша", 1 марта ожидается свой локальный местечковый праздник: приход к власти нового старого директора. Иван Талецкий занимал эту должность с 1990 по 1997 год. Был "выжит" с громким скандалом. Ему вменялись в вину многочисленные злоупотребления и махинации. Особенно же кололо глаза односельчанам то обстоятельство, что в период своего правления он прямо в поселке (на глазах у всех, кто победнее) начал строить для своей семьи двухэтажный особняк. По словам тех, кому посчастливилось видеть проект этого коттеджа, в нем, помимо немыслимого числа жилых и подсобных помещений, предусматривалась даже комната для прислуги. Ну как же такое стерпеть простому пролетарию! "У них денег куры не клюют, а у нас на водку не хватает."

Талецкого "съели". Правда, до суда дело не дошло, выкрутился. Но особняк конфисковали, и теперь он… Вы думаете, разделен на квартиры для бедных пролетариев? Нет, стоит недостроенный и разрушается под влиянием непогоды и окрестных воришек. Не имел завод средств его достроить, так зачем же, спрашивается, было конфисковывать? Уж пусть бы хоть кому-то была от него польза…

После Талецкого на заводе успели "порулить" еще два директора — примерно года по полтора. И каждый из них все неудачи родного предприятия валил, не стесняясь, на многострадального Ивана Ивановича — дескать, тот, негодяй и ворюга, довел завод до ручки, а мы вот теперь расхлебываем. При этом они как-то упускали из виду тот очевидный факт, что их предшественник, по примеру незабвенного Леонида Ильича, "жил сам и давал жить другим". К примеру, зарплаты рабочих в период его правления достигали 170-200 $, а вот никому из "честных" директоров столько платить своим работягам не удавалось. Более того, последний из "честных" — М. Шафаревич, хоть вначале и "навел порядок" (т.е. "по статье" поувольнял для острастки тех, кто попался на рабочем месте под хмельком), и даже пытался платить рабочим где-то до сотни "зелени" в месяц, но в итоге довел любимое предприятие до… описи и конфискации кой-какого имущества налоговой инспекцией. М-да… Уж не лучше ли тогда талантливый ворюга "у руля", нежели честный дурак? Не знаю, как на Западе, а у нас, наверное, лучше.

Конечно, к увольнению Талецкого в свое время приложил руку и кое-кто из своей же заводской администрации. Так что теперь, видимо, с его "новым" назначением чьи-то головы должны полететь. Навряд ли это коснется нас, простых работяг, а вот что касается "конторы"… Но не слишком ли сейчас эта "контора" велика? Как-то раз волею случая мне попался в руки график соотношений рабочие/ИТР. Очень занимательный, оказывается, документик! Так вот, в 1970 году на 390 рабочих завода приходилось 28 итээровцев. Тогда "контора" размещалась в старом деревянном бараке — и представьте себе, всем инженерным работникам места вполне хватало. Где-то в начале 80-х было построено новое 4-хэтажное здание для заводской администрации. В 1985 году соотношение было уже 370 к 43. Сейчас на заводе работает по-прежнему около 400 человек. Из них, представьте себе, "работники" — это примерно 130 человек, а остальные — "работяги", т.е. мы. Получается что-то вроде "сообразить на троих" — на шеи каждых двоих "у станка" посажен один итээровец. Именно так — просто посажен, поскольку производственных помещений за эти годы на заводе не прибавилось. Выросла только "контора".

Понятно, что при таком раскладе не особенно сострадаешь тем "конторщикам", чьи головы могут полететь при очередной смене руководства. Хочется верить, что Ивану Талецкому удастся снова "поднять" завод, наладить утраченные связи с Ближним Зарубежьем, найти какие-то средства для обновления производства… Хочется верить… А уж как оно получится — время покажет.

На всякий случай — новых вам успехов, Иван Иваныч, на старом новом поприще!

**Григорий АНТОНОВ.**

*На фото: еще стеклозавод "Коминтерн" и уже АО "Стекло-Глуша". Немногое изменилось…*



РЭАЛІІ

# "Вітаміннае" пытанне

Зараз настае тая пара, калі чалавечаму арганізму надта неабходная нейкая садавіна, гародніна, бо менавіта ў ёй яшчэ заталося крыху вітамінаў, што маглі б забяспечыць "якасную" жыццядзейнасць чалавека да самае вясны.

Каб даведацца, ці маюць бабруйчане магчымасць у нармальным стане дажыць да цёплых дзён, я выйшла ў горад з мэтаю высвятліць цэны на садавіну і гародніну. Аказалася, што чалавек, які знаходзіцца на сярэднім матэрыяльным ўзроўні жыцця, не пратрымаецца да вясны на вітамінах. Каб пераканаліся вы ў гэтым, паглядзіце, колькі каштуюць асноўныя віды садавіны і гародніны.

***В дадзенай табліцы прыведзены кошты асноўных «вітамінных» прадуктаў. Цэны пададзены ў рублях, у разліку за адзін кілаграм.***

| | Крама | Гандлёвы шапік | Рынак |
|---|---|---|---|
| 1. Яблыкі | 350 | 650-1000 | 250-550 |
| 2. Апельсіны | 1300 | 1000-1300 | 1100-1350 |
| 3. Бананы | — | 950-1100 | ад 1100 |
| 4. Мандарыны | — | 2200 і выш. | ад 2000 |
| 5. Капуста | 85 | — | 80-100 |
| 6. Буракі | 100 | — | ад 120 |
| 7. Морква | 250 | — | 250-300 |
| 8. Бульба (вядро) | 100 | — | 700-800 |

Вельмі сумніўна, што пры такіх цэнах звычайны бабруйчанін да вясны зможа забяспечыць сябе і сваю сям'ю вітамінамі. А вы як лічыце?

**Кацярына АНДРЭЕВА.**

НАШ ГОРОД

# А вам слабо, товарищ директор?

***Жители микрорайона "Западный" обратились к председателю бобруйского горисполкома Михаилу Бондаренко с письмом, в котором описывают ситуацию, сложившуюся на автобусном маршруте № 20, и предлагают пути выхода из этой ситуации.***

Дело в том, что по маршруту № 20 "ДОК-47" – "Тепличный комбинат" испокон веку ходит один автобус ЛАЗ, т.е. "по кругу", по принципу "пока вернётся". Если раньше этого с большой натяжкой хватало, то теперь, когда сданы в эксплуатацию несколько девятиэтажек (в том числе и малосемейное общежитие), положение катастрофическое. Особенно остро это ощущается утром, когда людям нужно на работу, детям – в детский сад, школьникам – в школу. Ни своей школы, ни детского сада в Западном, как известно, нет.

Такая же картина с посадкой на "двадцатку" вечером, когда все возвращаются домой. Автобус берётся таким яростным штурмом, что и ОМОН позавидует!

Пассажиры не один раз обращались в автобусный парк. Приглашали бобруйское телевидение для съёмки посадки в автобусе в час пик.

Нельзя сказать, что руководство автопарка не реагировало. Оно вежливо повествовало о своих "автопарковых" трудностях. Даже было организовано изучение пассажиропотока на маршруте № 20 студентами автотранспортного колледжа. Видимо, с целью уяснить, не врут ли эти вредные пассажиры, что в автобус не влезть. Неизвестно, что там насчитали студенты, но любой, кому "посчастливилось" ехать в автобусе в час пик, усомнится в таком подсчёте.

По количеству талонов, проданных водителем, пассажиров тоже не посчитаешь, ибо в такой давке "зайцев" будет предостаточно. С другой стороны, многие законопослушные граждане покупают проездные билеты, заплатив, так сказать, автобусному парку вперед за месяц. И подвергать этих людей таким испытаниям по меньшей мере нечестно со стороны автобусников. К слову, постоянному водителю автобуса № 20 люди выражают благодарность за человечество и профессионализм в экстренных условиях.

А вот директора автобусного парка жители "Западного" приглашают к себе на конечную "ДОК-47" в 7-20 утра, чтобы вместе с ним попытаться совершить посадку в автобус маршрута № 20.

Письмо заканчивается так: "Автобус с большим количеством мест или дополнительный рейс решит вопросы, поставленные в нашем обращении, а также уменьшит количество травм (особенно нынешней зимой), получаемых теми, кто вынужден добираться по гололёду до работы пешком, не сумев попасть в автобус маршрута № 20."

От себя хочу добавить:

… а также уменьшит число травм, полученных при штурме автобуса, проезде в нём и при попытках выхода из него.

**Людмила РОДИКОВА.**

КРИМИНАЛ

## Чужие в ЖКХ не ходят...



Потому что здесь успешно воруют свои. Один из сварщиков прихватил с родного места работы в поселке Туголица несколько "бэушных" латунных труб. А начальница одного из отделов, тоже успешно, присвоила газовую плиту – в хозяйстве все сгодится.

Тайное, как всегда, стало явным.

## ...и в Каменской школе – тоже

Получив в руки кредитную карточку, водитель школы-интерната для особо одаренных детей недолго думал, как ее применить. Получил 75 литров бензина на сумму около 80 тысяч рублей и счел своей собственностью.

Но не дремал бдительный директор школы.

## Вскрыт очередной

## "киндер-сюрприз"

Как вы помните из предыдущих "районных" публикаций, "киндер-сюрпризы" – это наши сельмаги, которые не грабит только ленивый. На этот раз из магазина в деревне Глуша украли лимонад, сладости, сигареты – набор говорит сам за себя. Задержаны двое 11-летних и один 14-летний парнишка. Последнего запойная мамаша выгнала из дому, а отец не принял в свою новую семью. Около месяца будущий взломщик скитался по чужим сараям и чердакам.

Легко ли его осудить за кражу?..

## Не шутите шутки с Госстрахом!

Житель деревни Орехово, немного "приняв на грудь", как-то нечаянно сжег салон своей автомашины. Недолго думая, пострадавший "поменялся номерами" с родственни- ком и застраховал свое искалеченное детище.

А через пару месяцев попытался получить страховку.

А то не видали в нашем Госстрахе таких умников!

**Г. АНТОНОВ.**

ЭХ, ЖИЗНЬ...

# КТО КОГО ИМЕЕТ, ТОТ ТОГО И ТАНЦУЕТ

***(поговорка "лиц кавказской национальности")***

На ПО "Белшина" праздник – своевременно выплачена зарплата, которая в последние два месяца задерживалась. Это знаковое событие некоторые связывают с приходом нового руководителя, другие же, более прагматичные, – с необходимостью меньшей суммы для выплат (производство уже месяц как остановлено, а рабочие отправлены по домам с выплатой 2/3 тарифа), а также с проведением 14 февраля в г. Минске акции протеста "Зарплату – на уровень цен", где одно из требований было: "Увеличение реальной заработной платы, не допущение задолженности по ее выплате".

* * *

Федерация профсоюзов Беларусская проводила 14 февраля в Минске митинг протеста, в этот же день на ПО "Белшина", что простаивает из-за отсутствия сырья, возникла "острая необходимость" в проведении ремонтного дня. Рабочих всех смен вызвали на работу. Не желающие участвовать в "трудовом порыве" должны были написать заявление и объясниться перед администрацией. По-видимому, так новый "генеральный" пресекал возможность участия своих "подопечных" в акции ФПБ и отблагодарил Лукашенко за трудоустройство.

**СТУДЕНТ.**

*У першай палове XVII стагоддзя мястэчка Бабруйск канчаткова вылучаецца са складу воласці і становіцца буйным рамесна-гандлёвым цэнтрам вялікай акругі.*

# Пытанні і адказы па гісторыі Бабруйска

## Наш горад чатыры стагоддзі таму

Горад – гэта не толькі вуліцы, будынкі і людзі. Горад – гэта культура, дух і традыцыі, тое, што надае таму, ці іншаму гораду непаўторныя рысы і выхоўвае яго жыхароў. XVII стагоддзе для нашага горада — час войнаў, пажараў, разбурэнняў. На працягу ста год бабруйчане былі вымушаны некалькі разоў адбудоўваць свой горад. Ваеннае ліхалецце сярэдзіны XVII стагоддзя наклала моцны адбітак як на ўсё гарадское жыццё, так і на знешні выгляд Бабруйска. Гэты адбітак мы адчуваем і сёння.

Каб бараніць горад ад варожых нашэсцяў, Бабруйск быў абнесены драўляна-земельнымі ўмацаваннямі, агульная даўжыня якіх складала больш за 3 кіламетры. На жаль да нас не дайшлі выявы тагачаснага Бабруйска, але паводле пісьмовых крыніц нам вядома, што горад быў абнесены земляным валам, на якім была пабудавана моцная драўляная сцяна з байніцамі для стральбы з агнястрэльнай зброі. Значную ролю ў сістэме абарончых збудаванняў Бабруйска XVII стагоддзя адыгрывалі двухпавярховыя вежы, якіх было каля дзесяці. Моцныя фартыфікацыйныя збудаванні ўплывалі на фармаванне планіроўкі Бабруйска да канца XVIII стагоддзя.

Жыхары Бабруйска і яго госці прыязджалі ў горад і выязджалі адсюль праз пяць брам, ад якіх ішлі дарогі. Кожная брама мела сваё імя і непаўторны выгляд. Прадольная — вяла да поромнай пераправы на Бярэзіне і далей на Магілёў. Свіслацкая — адчыняла шлях з Бабруйска да мястэчка Свіслач, якое знаходзілася ў месцы ўпадзення ракі Свіслачы ў Бярэзіну. Кісялеўская брама знаходзілася ў заходняй частцы Бабруйска. Слуцкая брама, адпаведна, выходзіла на Слуцкую дарогу, а Прудовая, ад якой ішла дарога праз плаціну на рацэ Бабруйцы, злучала Бабруйск з зарэчнымі гарадскімі палеткамі, агародамі, садамі і сенажацямі.

У першай палове XVII стагоддзя мястэчка Бабруйск канчаткова вылучаецца са складу воласці. Бабруйск становіцца буйным рамесна-гандлёвым цэнтрам вялікай акругі. Гарадское насельніцтва было ў асноўным беларускім і налічвала каля 5 тысяч жыхароў. Канешне не ўсе мяшчане былі карэннымі бабруйчанамі. Так Інвентар Бабруйска 1639 года ў ліку бабруйскіх мяшчан называе "Гардзея капыляніна", "Андрэя капыляніна", "Супруна свіслатчаніна", "Астапа свіслатчаніна" і г.д. Сярод жыхароў Бабруйска XVII стагоддзя былі выхадцы з далёкіх мясцін, напрыклад, "Васко жамойцінавіч" (г.з. з жамойці — тэрыторыя сучаснай Літвы), "Мацьвей валыняніп", "Геліаш валынец" (з Валыні), "Івашка маскаль", "Нікан маскаль" і іншыя, а адзін з рамеснікаў аказаўся зусім здалёк — гэта "рымар Януш венгр".

Цэнтрам Бабруйска XVII стагоддзя была прамавугольная Рынкавая плошча, на якай знаходзілася царква Святога Міколы, пабудаваная ў 70-я гады XVI стагоддзя і ўзведзены ў 1615 годзе касцёл Святых Пятра і Паўла. Царква і касцёл узвышаліся над Бярэзінай і з'яўляліся своеасаблівымі візітоўкамі горада. У тагачасным Бабруйску былі яшчэ цэрквы Святой Прачыстай і Святога Іллі, а на Свіслацкай вуліцы знаходзіўся дом езуітаў. Горад складаўся з 15 вуліц, галоўнай з якіх была Прадольная (альбо Парэчная, ля ракі), 2 завулкі, 409 двароў і 75 крам.

Бабруйчане XVII стагоддзя — пераважна гандляры і рамеснікі. Спецыяльнасці бабруйскіх рамеснікаў разнастайныя: цесляры, бондары, слесары, седляры, рымары, кавалі, цырульнікі, бравары, ювеліры, мечнікі, пекары, нават скрыпічныя майстры. Працы хапала ўсім, бабруйскія рамеснікі абслугоўвалі не толькі мясцовыя патрэбы, але і прыцягвалі да сябе пакупнікоў з іншых месцаў. Уставай 1629 года Бабруйску было дадзена права мець два дзвухтыднёвыя кірмашы з усякімі вольнасцямі і "бяспекай" у розных гандлях, скупцы, продажу і абменах.

Бабруйск пачаў займаць пачэснае месца, сярод іншых буйных гандлёва-рамесных гарадоў Беларусі, але войны сярэдзіны XVII стагоддзя зрабілі сваю чорную справу. Горад руйнуецца, усталяваныя гадлёвыя сувязі разрываюцца, некалькі разоў спалены Бабруйск прыходзіць ў заняпад. Нават нягледзячы на тое, што аднаўленне нашага горада адбывалася адносна хутка, Бабруйск толькі праз сто год выйшаў са стану крайняга разбурэння і спусташэння.

Каб пасля войнаў нейкім чынам паправіць эканамічнае становішча бабруйскіх мяшчан, кароль Рэчы Паспалітай Ян Сабескі у 1682 годзе пацьвердзіў ўсе ранейшыя каралеўскія граматы, якія надаваліся жыхарам Бабруйска з 1561 года. Улічваючы сур'ёзныя спусташэнні горада, кароль дазволіў не браць з бабруйскіх мяшчан падатак з гандлю тытунем, півам і мёдам – гэта павінна было садзейнічаць эканамічнаму развіццю Бабруйска, які з горада ператварыўся ў мястэчка, і паправіць стан жыхароў, на плечы якіх упаў увесь цяжар ваенных ліхалецццяў.

**Алесь ЧЫГІР.**

КАРАНІ

### Габрэйскае рыцарства ў Бабруйску



Усе кажуць — "рыцары", а хто іх бачыў? Шмат распаўсюдзілася ў нашы дні рыцарскіх клубаў, дзе аматары даўніны самі плятуць сабе кальчугі з дроту і мараць калі-небудзь купіць каня. Але мала хто ведае, што карані рыцарства знаходзяцца менавіта ў нашым горадзе. Усім вядома, што славуты конны рыцар на старадаўнім беларускім гербе "Пагоня" быў апрануты ў даспех, трымаў шчыт, быў узброены мячом і насіў на галаве Шалом (гл. В. Ластоўскі "Што павінен ведаць кожны беларус"). А шалом — гэта габрэйскае слова, якое азначае "Дабрыдзень". Так заўсёды віталіся габрэйскія рыцары, і дзеяслоў "ашаламіць" у тыя часы азначаў "ветліва павітацца". Невыпадкова гарадскі камітэт дзяржаўнай бяспекі, які мае габрэйскія шчыт, меч і зорку Саламона на сваім гербе, знаходзіцца ў будынку былой сінагогі, гэткім чынам працягваючы сваю гістарычную місію.

**І. МЯСЦОВЫ.**

НАШ ГОРАД

## Сэрвіс па-бабруйску

Ці ведаеце вы, што ў раскладзе аўтобусаў на аўтавакзале няма напрамку… на Мінск? Чаму? Напэўна, Мінск – гэта не горад Беларусі, не месца на карце краіны, а Мінск – гэта недзе там, зверху. Чаму я кажу такую хлусту? А вось чаму. Неяк давялося мне за квіткамі ў сталіцу стаяць у чарзе. Я стала ў агульную чаргу – на ўсе напрамкі. Дайшла да вакенца і кажу цётачцы, што неветліва глядзіць на мяне: "Калі ласка, квіток да Мінска". "Вам у восьмае акенца, туды, дзе напісана "На Мінск"," – адказала яна. "Выбачайце, а чаму я не магу набыць іх у вас? Над вамі напісана "Усе напрамкі". "Я вам кажу, вам у восьмае вакенца, не затрымлівайце чаргу!!!" – зноў не ветліва адказала цёця.

Вось потым і думай, няўжо Мінск – не ёсць напрамак руху тутэйшых аўтобусаў, няўжо аўтобусы туды з усіх напрамкаў не ідуць?

**Кацярына АНДРЭЕВА.**

## Что дорого, то и любо

В День Святого Валентина довелось наблюдать забавную сценку в магазине "Марка". Молодой долговязый парень в дублёнке, по виду мало похожий на "нового" беларуса, в парфюмерном отделе общается с продавщицей:

– У вас туалетная вода есть?
– Есть.
– А дорогая есть?
– Вот, за 6 тысяч посмотрите.
– Не-е, дёшево.
– Тогда вот за 9 тысяч возьмите.
– Маловато будет.
– Еще за 12 тысяч есть, самая дорогая есть.
– Во-во, давайте, в самый раз.

Достав из кармана пачку "зайцев" вперемешку с долларами, парень расплатился и пошагал, явно радуясь столь удачной покупке. Только вот продавщица выглядела огорчённой. Видимо потому, что туалетной воды подороже не оказалось.

**Людмила РОДИКОВА.**

**ПРАЦЯГВАЕЦЦА КОНКУРС ПАД НАЗВАЙ "ШТО ХУТЧЭЙ ПАБУДУЮЦЬ?"**

**Нагадваем, на здымках: банк, гарбальніца, бібліятэка.**

**Які будынак, на вашу думку, паважаныя чытачы, будзе пабудаваны першым?**

**НА ДАДЗЕНЫ МОМАНТ "ЛІДЗІРУЕ" БАНК.**

**І не забывайце – пераможцу конкурсу ЧАКАЕ ПРЫЗ!**



НУ І НУ!

**БелТА паведамляе**

## Як бацька з Вовачкам сустрэўся…

Нешта зачасціў у апошні час наш "бацька" ў крамлёўскія палаты. Яшчэ ў "дабарадзінскую эпоху" паспеў адзначыцца. Тады, як паведаміла БелТА, "Аляксандр Лукашэнка гаварыў аб узгадненні грашова-крэдытнай палітыкі. Пры гэтым ён падкрэсліў, што не прыехаў у Маскву за чарговым крэдытам, як паведамілі некаторыя расійскія СМІ…"

Таксама БелТА адзначыла: "Гутарка з расійскім прэзідэнтам Уладзімірам Пуціным пачалася на культурнай ноце…" Вось так: пакультурнеў наш кіраўнік трэцяга тысячагоддзя. А то мог бы і па-прастому, па-беларуску абысціся з расіянінам: клюшкай па пысе – гані крэдыты!

## … а таксама – з творчай інтэлігенцыяй

"Аляксандр Лукашэнка засяродзіў увагу ўдзельнікаў сустрэчы на тым, што ім таксама трэба варушыцца і не ўпускаць грошы, што ляжаць на паверхні." Цікава, дзе ж гэта нашы паэты і кампазітары паляніліся нагнуцца і ўзяць долары з падлогі? Затое вось прэзідэнт для гэтых гультаёў расшчодрыўся: "Кіраўнік дзяржавы паставіў задачу ўжо ў гэтым годзе пачаць будаўніцтва двух дамоў для творчай інтэлігенцыі ў Мінску, па аднаму – у абласных цэнтрах." Мабыць, у гэтыя тры даміны ўсю інтэлігенцыю і пазапіхваюць. І – краты на вокны, замкі – на дзверы… Гэта абгрунтаванае рашэнне.

"Нацыянальная культура – найважнейшы стратэгічны рэсурс дзяржавы, – падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка. – Без яе не можа быць эканомікі." Без каментарыяў.

## Прыклад бліскучай логікі

У сваёй нядаўняй прамове, прысвечанай тыдням беларускай культуры ў Маскве, прэзідэнт А.Г. паведаміў слухачам дзве вельмі важныя рэчы. Літаральна першая з іх гучала так: "Творчую інтэлігенцыю нельга ўцягваць у палітыку."

З гэтым нельга не пагадзіцца. Сапраўды, калі мастак добра малюе матылёў ды кветкі, няхай сабе. У палітыцы яму няма чаго рабіць. Абы толькі ў кветках не чаргаваліся белыя пялёсткі з чырвонымі.

Рэч другая (зноў літаральна): "Калі мне гавораць, што прэзідэнт абавязаны змагацца за творчую інтэлігенцыю, я пагаджаюся. Але дадаю: творчая інтэлігенцыя таксама павінна змагацца за прэзідэнта."

Пытанне вырашана "чыста".

І дзе ён логіцы вучыўся?

## Ці трэба "думаць галавой"?

Італьянскія вучоныя зрабілі сенсацыйнае адкрыццё. "Як паведаміла рымская газета "Месаджэра", цяпер дакладна вядома, што ў чалавечым целе мірна ўжываюцца два мозгі: адзін – у чарапной каробцы, а другі – у брушной поласці. Абодва ў аднолькавай ступені схільны да мігрэняў, стрэсаў, псіхозаў, радасцяў і гора."

Цяпер мы разумеем, чаму чалавек, які толькі дарваўся да ўлады, адразу ж пачынае "грэсці пад сябе", нібы тая квочка.

*Становішча наша сумнае:*
"Бел, цуда" не атрымалася.
Бо страўнікам улада думае,
*А не ж… , як нам здавалася.*

**«БелТАўскія » творы чытаў і аналізаваў Рыгор АНТОНАЎ.**

*Напоминаем, что вы имеете возможность опубликовать в нашей газете частное объявление АБСОЛЮТНО БЕСПЛАТНО!*

СМЕХ СКВОЗЬ СЛЁЗЫ

## Утренняя гимнастика

***Что? Брюшко? Одутловатое лицо и временами одышка? Мы знаем, как вам помочь. Но не обольщайтесь – не всё сразу. Начнём с малого: с утренней гимнастики.***

*1. МАХИ РУКАМИ*
Задавайте себе вопросы: "В какую школу отдать младшего?", "В какой ВУЗ пристроить старшего?", "Где взять денег жене на шубу?", "Как вывести перхоть?" и т.д. На каждый вопрос отвечайте махом руки.
*2. СТОЙКА НА ГРАБЛЯХ*
Положите грабли на пол и резко на них наступите. Ну как?
*3. ХЛОПКИ*
Включите беларусское радио и телевидение. Энергично хлопайте ушами.
*4. ЩЕЛЧКИ*
Задумайтесь: "Почему Петрова повысили на службе, а вас нет?", "Почему у Иванова "Пежо", а у вас – мопед?", "Почему Сидоров отдыхает в Турции, а вы – у тёщи в деревне?". Каждый вопрос сопровождайте щелчком. Посчитайте, сколько в жизни вы прощёлкали.
*5. УПРАЖНЕНИЕ С ЭСПАНДЕРОМ*
Позовите Эспандера, старого соседа по лестничной клетке. Сделайте с ним какое-нибудь упражнение.
*6. УПОР ЛЁЖА*
Лягте. Ноги – на ширине плеч, руки – на поясе. Почувствуйте упор. Постарайтесь его преодолеть. Повторите упражнение. Отпустите партнёршу.
*7. ПРИСЕДАНИЕ.*
Присядьте. К столу. Ну её, эту гимнастику!
Мы вас ценим и таким, дорогой читатель!

Утренний гимнаст
**Дмитрий ДОВГАЛЬ.**

## Пачутае ў краме

— Дай мне, калі ласка, добрага піва, дзяўчынка.
— Пожалуйста, "Балтика" "четвёрка", "шестёрка"...
— Не, гэта піва, мабыць, для "матросаў". Мне нашага "Рэчыцкага хмяльнога", "Чорнага прынца" ці "Портэра"...

Падслухаў
**І. МЯСЦОВЫ.**

## Пришло такое письмецо...

*Уважаемая редакция "Рабочего Бобруйска". Что это за дискриминация происходит в Вашей газете? Почему купон для бесплатного объявления предлагает только тем, у кого имя и фамилия "не для печати", да и адрес с телефоном "не подарочек"?*
*Что делать тем, у кого вполне нормальное, благозвучное имя с фамилией, а также с адресом и телефоном все в порядке? Ответ, пожалуйста, опубликуйте или хотя бы отправьте по моему адресу, но только не посылайте.*

ПУПКИН П.П.
Адрес: тот же.
Телефон: красный.

## Бобруйский шлягер

***Первая же публикация известных песен "в бобруйском варианте" вызвала настоящий бум среди читателей "Рабочего", что дает нам право продолжать начатое.***

### БОБРУЙСКИЕ ОПЕРА

*(на мотив «Подмосковные вечера», задушевно)*



Не слышны в СИЗО даже шорохи –
Всех здесь замели до утра.
Если б знали вы, как мне дороги
Все бобруйские опера. (2 раза)

Ведь в участке всех любят искренне,
Низко голову наклоня...
Очень хочется громко высказать
Всё, что на душе у меня. (2 раза)

— А рассвет уже всё заметнее,
Скоро будем вас выпускать.
— Может быть, подождём адвоката?
— Лучше подождём (,) твою мать! (2 раза)

**Поэт-пересмешник**
**Д. СТЁПА.**

НАШ ОТВЕТ...

## Народная солидарность

В последнее время в Бобруйске можно заметить, как пассажиры при выходе из троллейбуса отдают свои талоны вновь заходящим.
Таким весьма оригинальным способом бобруйчане ответили властям на очередное подорожание стоимости проезда в городском наземном транспорте.
В число участвующих в этом народном движении втягивается все большее число граждан всех возрастных групп, как говорится, и стар и млад.
Как аукнулось, так и откликнулось.

**СТУДЕНТ.**

## Бесплатные частные объявления

Продам дубленку мужскую (Канада, разм. 48-50 б/у); дубленку женскую (США, разм. 52 б/у); костюм мужской (Франция, разм. 48 б/у); шапки зимние (ушанки) – из рыжей лисы новая, песцовая б/у; шляпы фетровые (зеленая и красная); пальто демисезонное с рыжей лисой, разм. 54; сапоги мужские (дутые) разм. 43, почти новые; дивандеки, накидки для кресел, покрывала; скороварку (новая).
Все вещи в хорошем состоянии, цена договорная.
*Телефон: 3-90-08.*

Меняю дом, пригодный для дачи, в поселке Глуша на автомобиль ВАЗ любой модификации, или продам.
*Звонить 93-4-34 в рабочие дни с 12 до 18, позвать Олега.*

Продам красивые растения, которые украсят ваш офис, кабинет.
*Более подробно по телефону: 55-51-13.*

Девушка 23 года ищет работу, в свободное от работы время. Времени предостаточно. Предлагать любые варианты.
*Тел. 4-36-34. (с 16.00) Таня.*

Продам CD-плеер новый.
*Тел. 4-45-38 (после 17.00)*

Продам пианино. Импортного производства. Состояние хорошее. Цена очень невысокая.
*Тел. 2-08-86.*

Продам два стекла недорого. Размер 138x106x0,6 миллиметров; шкаф кухонный б/у.
*Звонить вечером. Тел. 3-65-72.*

Продам: мягкие уголки «Мечта», «Цезарь», спальни «Медуница», «Лагас»; телевизор «Горизонт» СТВ – 655-3-и, 54 см, кинескоп «Tomson». Все новое, в упаковке, с доставкой на дом.
*Тел. 4-17-92. Звонить до 23.00.*

Продается дом в центре города. Три комнаты, кухня, печное отопление. Имеются хозяйственные пристройки: летняя кухня, сарай, туалет, 5 соток земли, вода проведена. Цена 3000 у.е. Торг уместен.
*Тел. 3-89-77, 3-77-77. После 19-00.*

Продам счетчик холодной воды СХВ-15 (комплект для установки).
*Тел. 7-20-41.*











## Купон частного бесплатного объявления

Имя и фамилия (*не для печати*) ____________

Адрес (телефон) (*не для печати*) ____________

Текст объявления: ____________

____________

____________

____________

**Вырезать, заполнить, послать по адресу: 213809, Бобруйск, а/я 11.**